


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



**ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ**

**№4 СНЕЖАНЬ 2001 г.**


# З Калядамі і Новым годам!!!

*У зорным Сусвеце сувоі*
*снягоў расплятаю...*
*А светлае прадзіва*
*Вечнасць няспешна прадзе.*
*...Як рошчына хлеба*
*ў шчодрай дзяжы,*
*падрастае*
*на Сонцазвароце хрышчоны*
*Калядо мідзень.*
*Каляда ... Каляда ...*
*Я веру табе. І надзею*
*святую люляю.*

Калядная выцінанка Людмілы Пупінай. Браслаў

# ВЕСТКІ

У Барунскай базавай школе Браслаўскага раёна з верасня пачала выходзіць газета вучняў і настаўнікаў "Школьны час". Яе дэвізам стаў выраз: "Не вучань для настаўніка, а настаўнік для вучня". Менавіта вучні – галоўныя аўтары матэрыялаў выдання. Пабачылі свет ужо чатыры нумары "Школьнага часу".



У кастрычніку ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры пачала працаваць выстава "Самавары, гадзіннікі, вагі. З музейных збораў.". Прадстаўлена 17 самавараў расійскай вытворчасці канца XIX – пачатку XX стст., 11 насценных гадзіннікаў еўрапейскіх фірм "Le roi", "Gustaw Bekker" і інш. Разнастайны раздзел адведзены вагам – тут і фабрычныя бязмены, і бязмены саматужнай вытворчасці, і розных памераў шалі, напольныя вагі, вагі аптэчныя і вагі для крам.



Напрыканцы лістапада калекцыянер з Даўгаўпілса, краязнаўца, сябра беларускай суполкі гэтага латвійскага горада Мікола Паўловіч у чарговы раз перадаў музею шэраг цікавых экспанатаў. Самы каштоўны з іх – кніга на латыні – "Epitome instituti societatis IESU" ("Нормы інстытута брацтва Езуса"), выдадзеная ў Вільні ў 1688 г. Гэта кніга стала самым старым выданнем у калекцыі музея.



Газета "Браслаўская звязда" (01.12.2001 г.) змясціла матэрыял пра скульптара Эдуарда Падбярозкіна, нараджэнца Відзаў, які плённа працуе ў Вільнюсе. У галіне манументальнага мастацтва ён атрымаў прызнанне не толькі ў Літве, але і ў шэрагу краін Еўропы. Э.Падбярозкін падтрымлівае сувязі з Віленскім беларускім таварыствам. Прыкладна год таму скульптура Маці Божай працы Э.Падбярозкіна была ўстаноўлена пры дарозе Браслаў – Відзы каля в.Белая.



У памяшканні гісторыка-краязнаўчага музея з пачатку снежня адкрылася выстава "Новыя паступленні". Прадстаўлена звыш 100 экспанатаў, якія паступілі ў музейныя фонды на працягу 2001 года. (Усяго за год музейныя калекцыі папоўнілі каля 1000 прадметаў.) На чатырох стэндах паказаны рэчы, падараваныя музею калекцыянерам з Даўгаўпілса Міколам Паўловічам: кнігі, пабытовыя прадметы, манеты, фотаздымкі, прылады працы пераважна XIX – пач.XX стст. На выставе можна ўбачыць разнастайныя выданні, зброю, дакументы, паштоўкі і г.д.



Пры апрацоўцы рэшткаў архіву Замошскай Петра-Паўлаўскай царквы супрацоўнікі Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея выявілі невядомы раней факт з гісторыі Замошша. У перыяд першай сусветнай вайны гэта паселішча атрымала новую назву – Аляксеева-Раманаўскае. Перайменаванне, верагодней за ўсё, звязана з 300-годдзем дынастыі Раманавых. Невядома, ці сталі ўжываць новую назву мясцовыя жыхары. Неўзабаве адыйшла ў нябыт і Расійская імперыя і яе афіцыёзныя назвы. Нагадаем, што раней быў устаноўлены факт перайменавання Казянаў у Раманава-Нікольскае.



*Цікавая знаходка*

## МЁРСКАЯ ЦАГЕЛКА

У калекцыі вядомага мёрскага краязнаўцы і збіральніка Вітаўта Ермалёнка ёсць цікавы экспанат. Гэта картка пачатку XX ст. з малюнкам касцёла ў Мёрах, які меркавалася ўзвесці пасля збору неабходных сродкаў. Да карткі дадаваліся сімвалічныя цаглінкі з надпісам «Мёры». Кошт цаглінкі - 1 капейка, столькі ж каштавала сапраўдная цэгла. Купіў 10 цаглінак - значыць на гэтыя сродкі змогуць набыць 10 цаглін для будучага храма.








*Гартаючы старыя газеты*

Г. Видзы ( Новоалександровский уезд ). 19 июля в г. Видзах произойдет большое торжество освящения фундамента нового костела. К дню освящения ожидается прибытие в город управляющего Тельшевской епархией епископа Циртовта.

*Северо-Западный телеграф . 1909. 9 июля.*

# ВЕСТКІ

28 кастрычніка ў Мёрскім раённым гісторыка-этнаграфічным музеі пачала працаваць выстава з фондаў Браслаўскага раённага аб'яднання музеяў пад назвай "Народнае мастацтва Браслаўшчыны". На выставе дэманструюцца цікавыя вырабы з лазы, саломы, ткацкія вырабы, прадметы ганчарства. Выстава дазваляе ацаніць сапраўднае багацце талентаў Браслаўскай зямлі, яскрава пераконвае аб неўміручасці народных талентаў. Асабліва ўражвае наведвальнікаў-школьнікаў праца з саломы "Зубр" майстра са Слабодкі М.Б.Чэркаса.



З 16 лістапада ў раённым музеі пачала працаваць яшчэ адна выстава, прысвечаная творчасці нашага земляка Віктара Жаўняровіча.

Бацька яго паходзіў з-пад Друі, маці – з-пад Дзісны. Вучыўся будучы мастак спачатку ў Дзісенскай гімназіі, потым – у Друйскай. Потым вучыўся ў Вільні, у кансерваторыі імя М.Каршавіча, бо меў добры голас. Малярству вучыўся прыватна ў такіх мастакоў як Ф.Рушчыц, Арлоўскага, Нарудзкага. Пасля вайны трапіў у Францыю, дзе жыве і сёння. На выставе прадстаўлены творы В.Жаўняровіча з музея "Радзімазнаўства" С.Панізніка ў Лявонпалі, а таксама з сям'і Крупенькаў з в.Грудзінава. на выставе можна ўбачыць шматлікія дакументы і здымкі, якія апавядаюць аб нашым земляку, чые карціны вядомы былі раней перш за ўсё ў Еўропе і Амерыцы.



Выйшаў снежаньскі нумар браслаўскай прыкольнай газеткі "Гэта мы!". Анансаваць змест выдання немажліва – трэба чытаць.



Нядаўна ў Мёрах адбылося абласное свята нацыянальных культур: "Нас з'яднала зямля Беларусі". Удзельнічалі прадстаўнічыя дэлегацыі з Віцебска, Полацка, Лепеля, Ушач, Браслава, Глыбокага, Пастаў.

Госці пазнаёміліся з выставамі нацыянальных аб'яднанняў, якія ёсць на Віцебшчыне. Зачаравалі выступленні ансамбляў "Глыбачанка", "Мёрыца", калектыва Віцебскай школы №32, Дрысвяцкага народнага гурта, яўрэйскага гурта "Віцебскія дзяўчаты", украінскіх спевакоў Аляксея Вячэрні і Марыі Гоман, калектыва "Незабудка" Пастаўскага раёна. Фестывальнае свята паказала багацце нацыянальных культур, якія захоўваюцца на Віцебшчыне.



4 снежня у Віцебскім абласным цэнтры пазашкольнай працы адбылася прэзентацыя навукова-метадычнага зборніка «Славутыя нараджэнцы Віцебшчыны», падрыхтаванага сіламі аддзела беларусазнаўства і нацыянальнага адраджэння. На мерапрыемства былі запрошаны аўтары і героі кнігі. Прыемна адзначыць, што былі сярод іх і нашыя землякі. Так выпускніца СШ№1 Алена Рашкевіч, якая ўдзельнічала ў рэспубліканскім конкурсе «Славутыя рады Беларусі», выступіла на прэзентацыі з паведамленнем. Яе даследванне аб сям"і браслаўскіх святароў Васілеўскіх увайшло ў зборнік. Таксама браў удзел у прэзентацыі і настаўнік СШ№3 г.Мёры, краязнаўца Вітаўт Ермалёнак. У зборнік уключана яго праца аб славутым роду Лапацінскіх.

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*не разьбіць, не спыніць,*
*не стрымаць!!!*

*Максім Багдановіч*



**Пагоня - Герб Вялікага княства Літоўскага.**
***Паводле М.Шарфенберга. 1511 г.***

## *Гартаючы старыя газеты*

Г. Видзы (Новоалександровский уезд). Недели две тому назад при закладке фундамента под строящийся костел найдено около гарнца серебрянных монет. Монеты прусские 1755 и 1757 гг., времен Фридриха Великого. На лицевой стороне изображен король в полном облачении с мечом на плече. Вокруг надпись «Монета 1575(7) года. Рег.Прус». На обратной стороне - два орла. Надпись здесь стерлась и прочесть нельзя.

*Северо-Западный телеграф.*
*4 сентября. 1909 г.*

М. Браслав. В первых числах сего декабря священник браславской приходской церкви отец протоиерей В.А.Василевский совершил акт дарения своего дома и усадьбы в м.Браславе на благотворительные цели, обусловив при том, дабы половина дохода с этого имущества поступила на нужды местного православного братства, а вторая половина – на нужды местных римско-католического и еврейского благотворительных учреждений. Минуло 40 безупречных лет как духовный отец В.А.Василевский пребывает среди (местного) браславского прихода и его полувековой наставнической деятельности, … взаимоотношения с местным инородческим населением, отношения любви ко всем людям без различий веры, национальности и расы, что и стяжало этому почтенному пастырю любовь, уважение и почтение всего разнородного местного населения. Вышеуказанный благотворительный акт Владимира Василевского еще раз характеризует нашего общественного пастыря: на пути благотворения и человеколюбия он не встречает ни эллина, ни иудея, ни арийца, а только человека Божьего, и это в то самое время, когда раздаются голоса призывающие к человеконенависти и разделению.

Выборщик.

*Северо-Западный телеграф.*
*18 декабря. 1913 г.*

*Славутыя землякі*

# СХАВАЛАСЯ ДУША ПАЭТА

(Заканчэнне. Пачатак у №3)

М.Дварэцкі ўзначальваў гурток Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры (БІГіК) у Іказні. Гэта была грамадская арганізацыя, якая імкнулася пашырыць беларускую культуру і асвету. Арганізоўвала прадстаўленні, лекцыі, беларускія бібліятэкі. Восенню 1932 г. у Іказнь прыслалі ксяндза В.Лобана, які з амбона стаў выступаць супраць беларускіх прадстаўленняў, забараняў браць у іх удзел беларусам-каталікам. Супраць яго пазіцыі выступілі М.Дварэцкі, М.Шпак і Ф.Васілёнак ("Беларуская Крыніца", № 8, 10.XII.1933, с.4). Да 1939 г. М.Дварэцкі, не зважаючы на праследаванні ўладаў, змагаўся за правы беларусаў на Браслаўшчыне.

У 1939 г. з нагоды 25-годдзя святарскай дзейнасці кс.Адама Станкевіча прысвяціў яму верш:

*"Сяўцы другія сеюць нашу мову*
*І кажуць злосна: "Мусіць тут расці*
*Ня будзеш век ты неўрадлівай*
*Чарвяк не будзе век карэнь грызьці"..."*

Надыход Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 г. М.Дварэцкі вітаў з энтузіязмам, як і большасць беларусаў, маючых надзею на рэалізацыю правоў нацыянальнага культурнага развіцця. У 1940 г. паэт пісаў у вершы "Браслаўшчына сёння":

*"Шумяць Браслаўшчыны азёры,*
*Лясы гамоняць весялей.*
*Глядзяць шчаслівымі прасторы*
*І лічаць радасць новых дней.*

*Яна прыйшла да нас з Усходу*
*Пад звон матораў баявых,*
*Яе чакалі мы штогоду,*
*Бо ў сэрцах крыўды бунт не ціх.*
*(...)*

*Шумі, шумі, наш бор свабодны,*
*З акордам расспяваных хваль.*
*Жыві і красуйся, кут наш родны,*
*Цябе больш не скуюць у сталь".*

М.Дварэцкі арганізаваў беларускую школу ў Заборных Гумнах каля Браслава і быў яе дырэктарам, пакуль не прыслалі настаўнікаў з усходу і не замянілі мову на расейскую. Расчараваны савецкай уладай і "чырвоным імперыялізмам", паэт заняўся садаводствам і пчалярствам.

Калі ў чэрвені 1941 г. пачалася савецка-нямецкая вайна, у Іказні паўстала самазваная польская паліцыя, якая арыштавала М.Дварэцкага як камуніста. У адну з начэй яго павялі на растрэл. Паліцэйскі Ян Ваўтрукевіч (пасля вайны жыў у Грудзендзу), пастукаў у акенца хаты Дварэцкіх і гэткім чынам выратаваў Міколу ад самасуду. Калі прыйшлі немцы, нехта данёс у гестапа, што М.Дварэцкі з'яўляецца камуністам. Улады арыштавалі яго і змясцілі ў браслаўскую вязніцу. Дзякуючы старосце Кавальскаму Дварэцкага неўзабаве вызвалілі. Пасля гэтага Дварэцкі стаў войтам у Мёрах. Там пры нямецкай адміністрацыі перакладчыцай працавала Вера Шук з Драгун, выпускніца філалагічнага аддзялення Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. У хуткім часе яна пакарыла сэрца М.Дварэцкага.

У беларускую дзейнасць часоў акупацыі ўключыліся браты Міколы: Павел быў войтам у Браславе, Юзаф – у Перабродддзі, Аўгустын – школьным інспектарам у Браславе. Усіх, апрача Міколы, чакаў аднолькавы лёс: пасля вайны іх арыштавалі ўлады і выслалі ў Сібір. Мікола з немцамі ўцёк на захад перад надыходам савецкіх войскаў. Так ён трапіў у Памор'е. У 1945 г. знаходзіўся ў Шчацінку, аб чым сведчыць дата і мясцовасць пад вершам, прысвечаным Вользе Шук, сястры Веры. Існуе шмат загадак у гэтым перыядзе жыцця М.Дварэцкага. Напэўна, разгадаць іх не дадзена. Ці былі падставай выезду з Беларусі ўцёкі яго каханай Веры? Што рабіў у Памор'і, дзе знайшоў сваю каханую, якую раней пры невядомых абставінах згубіў? У аўтабіяграфічнай паэме "З майго жыцця", напісанай у 1960 г., М.Дварэцкі ўспамінае аб працы ў гаспадара. А ў вершы "Шлях да вольнасці", напісаным у 1955 г. і прысвечаным сябру Мар'яну Пецюкевічу, расказвае аб спробах схавацца ад "ворага", якім з'яўлялася спецпадраздзяленне Чырвонай Арміі. Гэтае падраздзяленне затрымала яго "старога дзядка" (меў доўгую бараду) і на допытах высвятляла, якім чынам ён апынуўся ў Памор'і. М.Дварэцкі "дапрацаваў" сваю біяграфію, згодна якой ён нарадзіўся ў Выбаргу і быў вывезены немцамі на працу. Усведамляў, што войтаўства пры акупацыйным рэжыме пагражала ці развітаннем з жыццём, ці доўгай няволяй. Каб пазбегнуць вывазу да "блізкіх" у Выбарг, уцёк у чаротавыя зараслі ў вусці Віслы. Тры месяцы жыў пад лодкай, харчуючыся рыбай ды бульбай, якую падбіраў на навакольных палетках. Калі ўдарылі кастрычніцкія халады і апанавалі праліўныя дажджы, рызыкнуў з'явіцца сярод людзей. Прыпісаўся ў Штутаве. У 1948 г. адшукаў Веру Шук і пасяліўся з ёй у Лашцы каля Штутава. У 1949 г. нарадзілася дачка Галіна, а ў 1952 г. сын Юры. М.Дварэцкі працаваў трохі дарожным майстрам у Штутаве, займаўся рыбалоўствам і пчалярствам. Калі ў 1956 г. у Беластоку пачаў выходзіць беларускі тыднёвік "Ніва", М.Дварэцкі стаў яго падпісчыкам. Дасылаў у газету свае вершы, якія з'яўляліся на старонках "Нівы" пад псеўданімам Мікола Базылюк. Належыў да кола беларускай літаратурнай групы "Белавежа". У першым зборніку беларускай паэзіі "Рунь", надрукаваным у Польшчы пасля вайны (1959 г.), апублікаваны 4 вершы паэта: "Рунь", "Як лісьце свае дні аджывае", "Ноччу", "Зіма". Верш "Рунь" даў назву ўсяму зборніку. Шмат беларускіх вершаў Дварэцкага знаходзяцца ў рукапісах.

У паэтычнай спадчыне Дварэцкага дамінуюць лірычныя вершы, прасякнутыя глыбокім пачуццём любові да каханай, тугі аб страчанай Айчыне ("Сум па Радзіме"):

*У староны чужой мне так цяжка тут жыць,*
*Бо край свой радзімы ніяк не забыць.*
*Там родныя сцежкі і роднае поле.*
*Усё я пакінуў. Ах, доля, ты, доля!*
*(...)*

*Вайна мяне вырвала з роднага краю*
*І толькі ў думках там часта бываю.*
*Сяброў і ўсіх родных мне ўжо не спаткаць.*
*У староны чужой жыццё трэба канчаць.*
*А ўсё ж мне так хочацца ведаць усё,*
*Чым блізкіх маіх абдарыла жыццё."*

*(Снежань 1985 г.)*

**Алена Глагоўская,** выкладчыца кафедры беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта.Гданьск.

# З гісторыі вёскі Маскавічы

(Заканчэнне. Пачатак у №3)

Праз нейкі час пасля перасялення на новае месца Юзаф Мацкевіч пайшоў з гэтага свету, пакінуўшы двух сыноў з уласнымі сем'ямі. Старэйшы сын Пётр меў трох сыноў: Паўла, Міхала і Андрэя. Усе яны разам памерлі надчас моравай пошасці. У малодшага сына Яна было шасцёра сыноў: Самуэль, Ян, Яфім, Піліп, Кандрат, Аляксей. У інвентары 1724 г. знаходзяцца згадкі аб большасці іх. Тагачаснае паселішча складалася з двух гаспадарак, якія апрацоўвалі па 1-й валоцы зямлі. Адну гаспадарку трымалі Самуэль і Кандрат, другую – Ян і Піліп. У апошняга ў сваю чаргу меліся два сыны. Што сталася з Аляксеем і Яфімам, невядома. Па нейкіх прычынах усе Мацкевічы пакінулі Шыпкаўшчыну. У інвентары 1766 г. адзначаны іншыя жыхары паселішча. Тут жылі сем'і каваля Антона Лук'янца і селяніна Лявона Каптура. Гаспадаркі апрацоўвалі па $1^1/_4$ валокі зямлі. Яшчэ адна валока запісана як незанятая, прычым адзначалася, што толькі чацвёртая частка яе прыдатна для апрацоўкі, астатняе – балоты і хмызнякі.

На самым прыканцы XVIII ст. у Шыпкаўшчыне ці Мацкевічах жыло дзве сям'і. Прозвішчы гаспадароў, на жаль, невядомы, у люстрацыі толькі адзначана агульная колькасць жыхароў: 20 чалавек, з іх 16 дзяцей.

З дакументаў XVIII ст., якія так ці інакш датычацца Маскавічаў, звяртае на сябе ўвагу дакумент, у якім адзначаны даволі цікавы факт. У 1713 г. у вёсцы Луні, праз якую працякае рака Друйка, быў узведзены млын. Плаціна гэтага млына стала прычынай даволі істотнага пад'ёма ўзроўню вады ў азёрах Браслаўскай групы. Вада, у прыватнасці, падтапіла манастырскі востраў, пашкодзіла масты, царкву, звaніцу, а таксама шэраг сялянскіх гаспадарак, размешчаных на нізкіх месцах. Гэты факт асабліва цікавы ў сувязі з тым, што прылягаючая да гарадзішча акваторыя возера вылучаецца археалагічнымі знаходкамі.

У 1834 г. Браслаўскі манастыр быў зачынены, а яго маёмасць адышла да Літоўскай духоўнай кансісторыі. У 1842 г. манастырскі маёнтак стаў дзяржаўным. Маскавічы ўвайшлі ў склад казённага маёнтка Браслаў. У 40-я гады XIX ст. паселішча, якое яшчэ лічылася засценкам, налічвала 46 жыхароў. Меліся гаспадаркі Марціна сына Фёдара Брылевіча, Восіпа сына Рамана Каптура і Івана сына Фёдара Брылевіча. У канцы XIX ст. паселішча ўжо лічылася вёскай. Паводле перапісу 1897 г. тут налічваліся 63 жыхары.

На працягу XIX – першай паловы XX стст. назва Мацкевічы спытала шэраг скажэнняў. У крыніцах можна сустрэць наступныя формы: Мацкавічы, Маскаўцы, Моськаўцы, Маскавічы. Упершыню сучаснае напісанне назвы вёскі – Маскавічы – сустракаем на рукапісным плане Браслаўскага павета, выкананым у 1808 годзе. Цікава, што складзеная трохі раней Межавая карта Мінскай губерні змяшчае правільную форму – Мацкевічы. Назва Маскавічы трывала замацавалася за паселішчам з пачатку XX ст. Выключэнне складаюць 20 – 30-я гады, калі Браслаўшчына ўваходзіла ў склад Польшчы. Тады была прынята адзіная форма – Маскаўцы.

Паводле перапіса 1931 г. у вёсцы налічвалася 15 двароў, 64 жыхары. Тут жылі Брылевічы і Жвірблінскія. Вёска лічылася выключна праваслаўнай. У пасляваенны перыяд у Маскавічах з'явілася некалькі новых сем'яў, але па-ранейшаму асноўныя жыхары вёскі – гэта Брылевічы і Жвірблінскія. Як і большасць іншых вёсак Браслаўшчыны, Маскавічы паспыталі значны адток насельніцтва, асабліва моладзі. Але ў адрозненне ад суседніх вёсак жыхары Маскавічаў выязджалі не ў гарады Прыбалтыкі, а ў асноўным у Браслаў. Увогуле, міграцыя з вёскі была больш запаволенай. Старыя людзі тлумачаць гэта наступным чынам. Нават у галодныя пасляваенныя часы, у перыяд, калі амаль задарма даводзілася працаваць у калгасе, у Маскавічах жылося трохі лепей, бо дапамагалі азёры. Лавілі рыбу і для сябе, і на продаж. Нездарма тут казалі: "Калі чалавек бяднее, то прыбіваецца ці да лесу, ці да вады".

Калі ў 60-я гады Браслаўшчыну сталі абжываць турысты, адпачываючыя, то маляўнічае наваколле вёскі Маскавічы не магло не прыцягнуць іх увагі. У летнія месяцы ў шмат якія хаты сталі засяляцца дачнікі. Доўгі час у Маскавічах прыпыняўся вядомы беларускі жывапісец Анатоль Шыбнёў. Тут створана ім шмат жывапісных палотнаў: пейзажаў маляўнічага наваколля, партрэтаў вяскоўцаў. У Маскавічах, наваколлі працуюць таксама вядомыя беларускія мастакі Георгій і Наталля Паплаўскія. З 1976 года сталі праводзіцца археалагічныя даследванні гарадзішча Замак ці, як прынята ў навуковай і папулярнай літаратуры, – гарадзішча Маскавічы. Дзякуючы рэдкім, а часам і ўнікальным знаходкам, гэта назва стала вядома далёка за межамі Беларусі.

***Кастусь Шыдлоўскі**, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея*

# Ксёндз Язэп Гайлевіч




На ніве адраджэння беларускасці ў Латвіі ў 20-30-я гады актыўна працавалі і святары – як каталіцкага, так і праваслаўнага веравызнання. Усе яны за сваю працу былі рэпрэсаваны рознымі ўладамі ў пэўны час. Пра іх жыццё і працу мала вядома, але нешта яшчэ можна знайсці і надрукаваць: захаваліся некаторыя дакументы і жывуць яшчэ сведкі іх працы.

Найбольш вядомы сярод іх – ксёндз Язэп Гайлевіч. Шмат гадоў навучаў ён слову Божаму вучняў і будучых настаўнікаў у беларускіх школах, гімназіі і на курсах у Латвіі. Нарадзіўся ён у невялікай вёсцы Дразды Друйскай гміны ў сакавіку 1893 г. у вялікай сям'і. Вучыўся ў Мёрах. На службу ўсёй сям'ёй хадзілі ў мясцовы касцёл у Ідолце, на фэсты ездзілі ў Друю. Пад уплывам мясцовых ксяндзоў-беларусаў вырашыў стаць ксяндзом. У 1918 г. скончыў духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1920 г. ў Мінску пасвечаны ў сан святара і прызначаны на працу ў Педрую. Пад уплывам ксяндзоў-марыянаў з Друі актыўна падключыўся да беларускага руху ў Латвіі. Ксёндз пачынае працаваць у беларускіх школах і гімназіі. Набажэнствы ў касцёлах праводзіць на беларускай мове – але гэта не ўсім падабаецца. У 1935 г. Язэп Гайлевіч пераводзіцца ўладамі пад Рэжыцу – у прыход, дзе няма ніякіх беларусаў. У час другой сусветнай вайны (да 1944 года) выкладае на беларускіх курсах у Рызе.

Пасля вайны працуе ў Індры (Бальбінава). У верасні 1949 г. атрымлівае 10 гадоў за антысавецкую дзейнасць і агітацыю. Ксёндз высылаецца ў рэспубліку Комі, пасёлак Абізь. Здзейсніць арышт у касцёле ўлады пабаяліся: быў прысланы чалавек з запрашэннем наведаць хворага. Але замест хворага Я.Гайлевіча чакалі чэкісты. Да вечара патрымалі ксяндза ў невялічкай капліччы і толькі ўначы вывезлі на чыгуначную станцыю.

Я.Гайлевіч адбыў у лагеры 7 гадоў і вярнуўся ў Латгалію. Працаваць у Бальбінаве забаранілі. Прыйшлося працаваць некалькі гадоў у Рунданах, што знаходзяцца блізу мяжы з Эстоніяй. Потым вярнуўся ў Індру (Бальбінава). Памёр Я.Гайлевіч у 70-я гады. На пахаванні, па словах прыхажанаў, прысутнічала да 70-ці ксяндзоў з Латвіі, Беларусі, Літвы. Пахаваны ксёндз Язэп Гайлевіч ў Індры на могілках.

***Мікола Паўловіч**, сябра беларускага таварыства ўг.Даўгаўпілсе, краязнаўца.*

# РАДАВОД СЯМ"І СВЯТАРОЎ ВАСІЛЕЎСКІХ

*Прадстаўлены матэрыял - вынік даследчай працы школьніка. Яе аўтар вучаніца 11 класа Браслаўскай СШ№1 Алена Рашкевіч. З ёй яна ўдзельнічала ў Рэспубліканскім конкурсе «Гісторыя славутых родаў Беларусі», дзе заняла III месца. Друкуецца ў скарочаным варыянце.*

Род Васілеўскіх. А ці сапраўды можна казаць аб сям'і Васілеўскіх як аб нечым адзіным ? Гэтая праца – спроба адказаць на гэтае пытанне.

Сям'я Васілеўскіх з'явілася на Браслаўшчыне ў канцы 60-х гадоў XIX ст. Пакуль удалося высветліць толькі тое, што гэтыя Васілеўскія паходзяць з сучаснай Гродзеншчыны. Асаблівасцю сям'і з'уляецца тое, што кожнае пакаленне мела святароў. Зараз вядомы імёны святароў трох пакаленняў, аднак ёсць верагоднасць таго, што ў хуткім часе адкрыюцца імёны святароў яшчэ двух пакаленняў:

**I пакаленне** – Васілеўскі, святар, бацька Антонія;

**2 пакаленне** – Антоній Васілеўскі (1816-28.5.1899), святар Вензавецкай царквы, бацька Уладзіміра;

**3 пакаленне** – Уладзімір Антонавіч Васілеўскі (17.10.1846-17.3.1914)

**4 пакаленне** – Уладзімір Уладзіміравіч Васілеўскі(13.4.1874-?), святар, Аляксей Уладзіміравіч Васілеўскі (4.2.1876-17.11.1942), святар Браслаўскай царквы.

І яшчэ. Ужо вядома, што і Антоній у Вензаўцы што на Гродзеншчыне і Уладзімір у Браславе мелі дачыненне да пабудовы новых храмаў. Гэтая абставіна яшчэ дадае гонару ў без таго слаўную скарбонку сям'і святароў Васілеўскіх.

## Святар Антоній Васілеўскі.

Святар Антоній Васілеўскі нарадзіўся ў 1816 г. таксама ў сям'і святара. Паходзіць яны з Гродзенскай губерніі. Навучаўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1839 г. Працаваў пісцом у канцэлярыі, а 1.01.1843 г. быў рукапакладзены ў святара Вензавецкай царквы, што недалёка ад г.Дзятлава на Гродзеншчыне. Адпрацаваў на гэтым месцы ўсё жыццё, а дакладна 43 гады. Аналізуючы матэрыялы па гісторыі гэтай царквы вынікае, што новая каменная Петрапаўлаўская царква ў Вензаўцы пабудавана ў час знаходжання там айца Антонія. Напэўна ён і кіраваў будоўляй. Канешне, гэтыя абставіны трэба высвятляць. Пра сям'ю мала што вядома, жонку называлі Юлія Іванаўна, меў святар некалькі дзяцей, сярод іх Уладзімір, лёс якога будзе звязаны з Браслаўшчынай. Пражыў Антоній Васілеўскі 83 гады і памёр 29 мая 1899 г.

## Святар Уладзімір Васілеўскі.

Святар Уладзімір Антонавіч Васілеўскі нарадзіўся 17.04.1846 г. Сын святара, навучаўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі. Вывучаў філасофію, медыцыну, матэматыку, сельскую гаспадарку, грэчаскую, лацінскую, нямецкую мовы. Па заканчэнню курса навук у 1865 г. састаяў у архірэйскім хоры. Самастойную працу пачаў у Браславе. 2.09.1867 г. назначаны святаром у Браслаў. 18.02.1868 г. рукапакладзены ў дыякана, а 19 лютага ў святара Браслаўскай Мікалаеўскай царквы. Заслугоўвае ўвагі спіс асноўнай працы і ўзнагарод святара: з 1869 г. выкладае Закон Божы ў Браслаўскім мужчынскім сельскім вучылішчы ( з 1774 г. і ў жаночым); 1875 г. узнагароджаны набедраннікам; 1880 г. узнагароджаны скуф'ёй і прызначаны Новааляксандраўскім віцэ-благачынным; 1893 г. узнагароджаны наперсным крыжом; 1896 г. прызначаны Новааляксандраўскім благачынным; 15 мая 1898 г. узнагароджаны ордэнам Ганны 3 ступені; 1902 г. атрымаў сан пратаіерэя; 1907 г. склаў паўнамоцтвы Новааляксандраўскага благачыннага, якія выконваў на працягу 11 год; 1908 г. узнагароджаны ордэнам св.Уладзіміра 4 ст.; 10 кастрычніка 1912 г. стаў заштатным пратаіерэем Браслаўскай царквы; 23 жніўня пераменчаны святаром Цытавянскай царквы замест сына Аляксея.

Памёр Уладзімір Антонавіч Васілеўскі 17 сакавіка 1914 г. і пахаваны на праваслаўных могілках у Браславе. Цікава, што незадоўга да смерці Уладзімір Васілеўскі падараваў усю сваю маёмасць праваслаўнаму брацтву, а таксама на патрэбы як праваслаўнага прыходу, так і яўрэяў і каталікоў.



Браслаўская Свята-Успенская царква. 1897 г. Пабудавана пры удзеле святара Уладзіміра Васілеўскага

## Сям'я Уладзіміра Васілеўскага.

Жонка Аляксандра Канстанцінаўна нарадзілася ў 1950 г. У 1872 г. нарадзілася дачка Алена, якая ў 1895 г. выйшла замуж за настаўніка Віленскага духоўнага вучылішча Навіцкага.

У 1874 г. нарадзіўся сын Уладзімір. У 18 гадоў пайшоў вучыцца ў Літоўскую духоўную семінарыю. У 1898 г. - святар пры Нова-Святскай царкве ў Вільні.

4 лютага 1876 г. – нарадзіўся сын Аляксей. У 16 гадоў пайшоў вучыцца ў тую ж семінарыю. У 1898 годзе ён стаў святаром Массалянскай царквы. У 1912 г. заняў места бацькі ў Браславе.

У 1877 г. – нарадзілася дачка Вольга.

7 лістапада 1881 г. – нарадзілася дачка Наталля. У 11 гадоў пачала вучыцца ў Дынабургскай жаночай гімназіі. У 1897 годзе выйшла замуж за Браслаўскага сельскага ўрача Сапожнікава.

21.10.1882 г. – нарадзіўся сын Канстанцін. У 9 гадоў пачаў вучыцца ў Шавельскай гімназіі. У 1902 г. вучыўся ў Віленскім юнкерскім вучылішчы. У 1903 годзе працаваў паліцэйскім чыноўнікам у г. Коўна. У 1905 г. прапаршчык Сібірскага стралковага корпуса.

## Святар Аляксей Васілеўскі.

Аляксей Уладзіміравіч Васілеўскі нарадзіўся 4 лютага 1876 г. у Браславе. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1898 г. У духоўны сан яго пасвяцілі 2 лютага 1899 г. Спачатку працаваў у Вільні псаломшчыкам у Прачысценскім саборы, пасля ў Массалянскай царквы Раства Багародзіцы недалёка ад Вялікай Бераставіцы на Гродзеншчыне. Дарэчы храм захаваўся і з'яўляецца помнікам архітэктуры канца 18 ст. З 28.06.1905 па 23.01.1912 г. служыў у Цытавянскай царкве. Наступным месцам працы і да канца жыцця стала Браслаўская Свята-Успенская царква, пабудаваная пры ўдзеле яго бацькі. Трэба зазначыць, што ён змяніў на святарскім месцы менавіта бацьку, а бацька айцец Уладзімір паехаў у Цытавяны замест сына.

Айцец Аляксей служыў у Браславе 30 год. Як і бацька меў шмат розных узнагарод, з'яўляўся благачынным, выкладаў у народных вучылішчах і прыходскіх школах. У часы Зах.Беларусі нават крыху пацярпеў ад рэпрэсій з боку польскіх уладаў. Па некаторай інфармацыі яго саслалі, але пасля ён вярнуўся. Памёр святар Аляксей 17 лістапада 1942 г. і пахаваны на праваслаўных могілках у Браславе побач з бацькам.

## Сям'я Аляксея Васілеўскага.

Жонка Алена Іванаўна, нарадзілася ў 1880 г. Хутчэй за ўсё паходзіць з Браслаўшчыны. У іх было 6 дзяцей. Самая старэйшая – Аляксандра, 1900 г.н. Вядома, што вучылася ў Слонімскай жаночай

гімназіі. Далейшы лёс невядомы.

Уладзімір, 1901 г.н. Вучыўся ў Слонімскім рамесным вучылішчы. Пасля жыў у Амерыцы. Па некаторых крыніцах інфармацыі быў звязаны з мастацтвам – быў тэатральным акцёрам.

Аляксей, нарадзіўся 17.12.1902 г. Атрымаў выдатную адукацыю за мяжой, у Празе. Пасля сканчэння юрыдычнага факультэта прыехаў у Браслаў. На жаль, невядома чым займаўся. З надыходам вайны стаў кіраўніком антыфашысцкага падполля. Загінуў у Беразвецкай турме каля Глыбокага у 1943 г.

Пётр, 1904 г.н. Вядома, што выехаў за мяжу, у нейкую паўднёвую краіну. Працаваў егерам і на некаторых звестках трагічна загінуў.

Вольга, 1906 г.н. Выйшла замуж і жыла ў Сабакінцах ( Гродзеншчына). У гады вайны трапіла ў Асвенцым. Далейшы лёс невядомы.

Дзмітрый, 1913 г.н. Атрымаў выдатную адукацыю, стаў урачом. У гады вайны дапамагаў брату Аляксею у падпольнай барацьбе. У 1943 г. браты Васілеўскія былі арыштаваны і адпраўлены ў турму. Яму ўдалося выжыць прайшоўшы шэраг турмаў і лагераў. У пасляваенны час працаваў доктарам у Браслаўскім санаторыі, Слабодскай бальніцы. Пасля выехаў у Даўгаўпілс (Латвія), дзе працягваў урачэбную практыку. Памёр у канцы 80-х гадоў у Даўгаўпілсе.

***Алена Рашкевіч,***
*вучаніца 11 класа*
*Браслаўскай СШ№1*




Браслаўскі манастыр на востраве возера Несліш.
Малюнак паводле адлюстравання на гравюры XIX ст. абраза
Маці Божай Браслаўскай. Яўген Расалай. Браслаў. 2000 г.

---

*Яна Капуста, студэнтка другога курса беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Родам з в.Гірэйшы. Скончыла Браслаўскую гімназію. Пісаць пачала ў школьныя гады, спачатку па-руску, потым па-беларуску. Чувайма – гучыць пранікнёны голас паэтычнай душы.*

## Нажы і пагрозы!

***

Я нясу ў рукох паламаны
ліхтар.
Я нясу ў рукох паламаных
надзею.
Я нясу й я ведаю ўсё,
што мне скажуць на гэтае
людзі й здані.
Я ад ранку згадаю,
што трэба ісьці,
хаця ўбачу ня тое,
чым ёсьць навакольле,—
я ня буду ўсьміхацца
бязродным вагням,
бо…
мне проста Радзіма мая
не дазволіць.

***

Там,
дзе калісьці рэчка была,—
ручай.
Там,
дзе калісь надзея жыла,—
адчай.
Вось так, калі неба губляе пах,
зьяўляецца
нейкі пачварны страх,
і мы,
не раўнуючы як жабракі,
паўзем
да апошняе ў сьвеце ракі…
якая
даўно ўжо зьмяльчэла ў ручай…
Адчай…

***

Пад халодным восеньскім сонцам,
у халодным восеньскім золаце
я зьнікаю.
А нада мною—
Мільёны пажоўклых надзеяў.
Яны ўжо ня плачуць
і крыві ня льюць—
яны ўжо мёртвыя.
Мёртвыя
й такія халодныя,
што я сама раблюся
кавалачкам замерзлае глебы.
А яны, лісточкі Надзеі,
народжаныя натхняць,
усё працягваюць
зьлятаць са сваіх галінаў,
пераўтвараючы зямлю
ў магільнік спадзеваў…

***

А я ўжо ніхто,
бо ня ведаю, хто я,
ня ведаю, дзе я згубіў
свой дах і шлях…
Магчыма, калісьці я быў інсургентам,
а можа, быў катам,
а мо… чалавекам?
Якога згубіў,
забіў…
Няма паратунку,
няма, хоць разьбейся!
А мо не было ніколі?
Даволі!
З чаго вызваляць,
ад чаго ратаваць, каму ратаваць і каго?
Яго?
Таго, хто калісьці быў чалавекам:
Ці катам бязмозглым
ці інсургентам.

## Куток калекцыянера

У 2000 г. Беларусь адзначала 100 гадовы юбілей вядомага беларускага мастака Пётры Сергіевіча, нараджэнца в.Стаўрова Браслаўскага раёна. Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь выпусціла да юбілею мастацкі канверт, які падрыхтаваў В.Сташчанюк. На канверце змешчана рэпрадукцыя карціны П.Сергіевіча «Балада». На марцы адлюстраваны партрэт мастака на фоне яго вядомай карціны «Каліноўскі і Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў». Дарэчы, тыпажы для гэтай працы П.Сергіевіч шукаў сярод сялян сваіх родных мясцінаў.




## Легенды і паданні роднага краю

Жыў у вёсцы Луні адзін магутны чараўнік. Гора было таму, хто з ім пасварыцца.

Аднойчы адзін з вяскоўцаў на сабе яго гнеў паспытаў. Чараўнік толькі ўсміхнуўся нядобра. Праз некаторы час ладзіў той селянін вяселле. Толькі маладыя ў лес заехалі, бачыць маладая, што навокал яе замест людзей воўчая зграя, замест жаніха яна ваўка за лапу трымае. Ды й як толькі спалоханыя коні выскачылі з лесу, усе, хто ў вазках сядзелі, ізноў у людзей абярнуліся.



Даехалі маладыя дадому. Му́зыка хоча марша заіграць, ды гармонік расцягнуць не дасць рады. І толькі калі прывялі на вяселле таго чараўніка і папрасілі ў яго прабачэння, усё найшло як трэба.

Легенду расказала Кяпсня Зофія Янаўна, жыхарка в.Чэрнева, 1922 г.н.
Легенду запісалі сябры гуртка «Мая Бацькаўшчына» Чэрнеўскай БШ


Выцінанка Людмілы Пупінай

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко, Людміла Пупіна.

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»